# Моладзевая думка

САКАВІК•2004






- Каго любіш?
- Люблю Беларусь.
- То ўзаемна.



# ДЗЕНЬ ВОЛІ: БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ НА БЛАКІТНЫМ

***Вось і надыйшла доўгачаканая Вясна. З гаркаватым водарам Свабоды, жывой Зямлі, мокрага Ветру, першых Кветак. Зь лёгкімі ваблачынкамі ў такім мягкім утульным небе, што хочацца захінуцца ў яго, бы ў знаёмы зь дзяцінства бабульчын плед. З пачуцьцём нейкай неакрэслена-цьмянай, але шаленай Волі.***

Вясна ў дзяцінстве асацыявалася ў мяне з першым сонейкам, чырвонымі гвазьдзікамі на фоне глёбусу (паштоўкі тады былі такія) і з нейкімі агідна сьмярдзючымі жоўтымі кветкамі, якія, дарэчы, можна было зрабіць самастойна: шматкі ваты прылепліваліся да паперчыны, фарбаваліся ў жоўты колер і ганарова падносілася жаноцкай палове сям'і. Такія "паштоўкі" пасьпяхова замянялі жывыя кветкі і, дарэчы, ніяк не пахлі.

Ішоў час, і зараз я ведаю, што кветкі тыя зваліся мімозамі (што ёсьць не зусім верна: навукоўцы называюць мімозай зусім іншую расьліну). Зараз вясна для мяне гэта пранізьліва-блакітнае неба, якое адбіваецца ў стальнога колеру лужынах, бясконцая свабода, абвастрэньне цёплых пачуцьцяў да ўсяго Сусьвету, і, безумоўна, Дзень Волі.

Дзень Волі - сымбаль вяртаньня жыцьця, адраджэньня, адвечнай надзеі на лепшае. І яшчэ бел-чырвона-белы сьцяг на фоне шэра-блакітнага неба.

Дзень Волі для кожнага значыць нешта сваё. Для кагосьці гэта надзвычай важнае сьвята, хтосьці аб ім нічога ня ведае, камусьці ўсё роўна. Але ж, спадзяюся, што на 100-годзьдзе абвяшчэньня БНР (Дзень Волі праз 14 год) большасьць народу будзе лічыць гэтае сьвята сапраўды СВАІМ.

**Ганна ЗЬНІЧКА**



# ВЫТОКІ НАШАЙ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ




23 сакавіка Антон Луцкевіч выступіў на паседжаньні Народнага Сакратарыяту. Ён гаварыў, што фармальна Беларусь застаецца тэрыторыяй Расеі, бо ні першая, ні другая Устаўныя Граматы не скасоўваюць абвешчанай на кангрэсе фэдэратыўнай сувязі з Расеяй. Расея зь Нямеччынай, не спытаўшыся ў беларусаў, дзялілі нашу зямлю між сабою ў выніку падпісанага бальшавікамі Берасьцейскага міру.

А восьмай гадзіне вечара 24 сакавіка адкрылася паседжаньне Рады БНР. Праца доўжылася ўсю ноч і завяршылася прыняцьцем ураньні 3-яй Устаўной граматы! **"...Цяпер мы, Рада БНР, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці... Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай".**

Актам 25 сакавіка ўвесь этнічны беларускі абшар упершыню абвяшчаўся адзінаю дэмакратычнай дзяржавай. Была зацьверджана дзяржаўная пячатка з выяваю "Пагоні". У Менску прадугледжвалася стварыць Беларускі ўнівэрсытэт і Беларускую калегію для падрыхтоўкі кадраў новага дзяржаўнага апарату.

Незалежную БНР дэ-факта прызналі Арменія, Аўстрыя, Грузія, Латвія, Летува, Польшча, Турэччына, Украіна, Фінляндыя, Чэхаславаччына, Эстонія. Ніхто ўжо не мог заяўляць, што беларускага народу не існуе.

Дзень 25 Сакавіка 1918 году стаўся пачаткам доўгага і пакутнага шляху да набыцьця Беларусьсю сапраўднай незалежнасьці.

Дзікунствам і барбарствам тады здаюцца словы абвінавачваньня і параўнаньня гэтай падзеі з фашызмам. Давайце зьвернемся да нашых суседзяў летувісаў, нацыі, што паважае сябе і шануе сваіх герояў. Яны адзначаюць дзень Незалежнасьці, атрыманай 16 лютага 1918 году, на дзяржаўным узроўні: са сьцягамі, выступамі палітыкаў, сьвяткаваньнямі ў школах. Там нікому й у галаву прыйсьці ня можа назваць барацьбітоў за незалежнасьць фашыстамі.

Наш жа шлях да сапраўднай волі яшчэ доўжыцца, і таму так важна нам з Вамі, працягваючы змагацца за незалежнасьць Беларусі, штогод адзначаць дзень 25-га Сакавіка, памятаючы наказ нашых папярэднікаў (У часопісе "Крыніца" (1998 №11 стар.69). Быў зьмешчаны дакумэнтальны матэрыял, як у 1948 годзе у Германіі, у лягеры для перамешчаных асоб беларускай нацыянальнасьці, адзначалі дзень 25-га Сакавіка. Мы падаем Вам ліст Міколы Шылы, дасланы ўдзельнікам гэтай акцыі):

"Хваробаю цяжка прыкуты да ложка, у гэты Вялікі Ўрачысты Дзень не магу сам асабіста прыняць удзел у сьвяткаваньні. Дзеля гэтага, як удзельнік Акту 25 Сакавіка 1918 года, ад усяго сэрца вітаю Вас зь Вялікім Нацыянальным Сьвятам і ад усяе душы зычу, каб у наступным годзе на Роднай Бацькаўшчыне, якая стогне пад чужацкім ярмом, мы ў сваіх родных хатах са сваім родным Урадам у вольнай Радзіме супольна сьвяткавалі гэты Вялікі Дзень і закончылі яго аднагалосным тостам: Жыве Беларускі Народ! Жыве вольная, незалежная, непадзельная Беларусь!"

Са сьвятам вас, сябры!

**Наталька ХАРЫТАНЮК**

**Неяк гады два таму на дзяржаўным тэлеканале прагучала жахлівая тэза: вядучы спрабаваў пэўным чынам зьвязаць падзеі 25 Сакавіка 1918 ў Беларусі з фашызмам. "Якое цемрашальства і непісьменнасьць! – падумала я. У кожным жа падручніку напісана, што фашызм узьнік толькі ў 1919 годзе". Ды й наколькі небясьпечна гэта – казаць такое ў этэры. На сьвяты дзень – дзень доўгачаканай Незалежнасьці – падае цень зьнявагі, у падсьвядомасьці народу адбіваецца недаверлівае асьцярожнае стаўленьне. Божа барані, каб гэтае пачуцьцё трывала замацавалася ў нашых душах.**

**Таму і палічыла я вартым, шаноўны чытач, нагадаць Вам яшчэ раз, што было ў гэты дзень, 25 сакавіка, ужо 86 гадоў таму, адкуль і дзякуючы каму мы маем сёньня нашу Незалежнасьць.**

**Адчуваю сябе ВОЛЬНАЙ, калі гляджу на бела-чырвона-белы сьцяг, што лунае над Берасьцем... Адчуваю сябе ШЧАСЬЛІВАЙ, калі на вуліцах роднага места ад незнаёмых людзей чую Беларускую Мову... Адчуваю сябе ЎДЗЯЧНАЙ, калі ўзгадваю імёны Палуты Бадуновай, Міколы Шылы, Аркадзя Смоліча, Язэпа Варонкі, Кастуся Езавітава, ды іншых удзельнікаў акту 25 Сакавіка... А калі я мару пра Дзень Волі у 2018 годзе, то ўсе гэтыя пачуцьці зьліваюцца, уздымаюць мяне над сёньняшнімі турботамі й перашкодамі, прымушаючы верыць у лепшы лёс для Беларусі.**

# ДУМКІ НАПЯРЭДАДНІ ДНЯ ВОЛІ

Вуліца... Поле... Вялікае Княства...
Жаўрукі ў аблоках ляцяць.
Вольнаму - Воля – найвялікшае шчасьце!
**Нават вецер не дагоніць каня!**
Віктар Шалкевіч

Калі у думках перанесьціся на 14 гадоў наперад, то мы якраз патрапім на сьвяткаваньне 100-годзьдзя з дня абвяшчэньня Незалежнасьці БНР. Уявіце: сонечны, празрысты сакавіцкі дзень, уздоўж цэнтральных вуліц і прашпэктаў вывешаныя нашыя сьцягі, з рэпрадуктараў гучыць беларускі рок – Беларусы сьвяткуюць сваю ВОЛЮ! Можа быць, на самай прыгожай вуліцы Кастуся Каліноўскага будзе велічна пазіраць на местачкоўцаў надпіс “Жыве Беларусь”... Можа быць, у школах напярдадні пройдуць сустрэчы й вечарыны, прысьвечаныя памяці першага Беларускага Ўрада й падзеям 25 Сакавіка 1918 года... Можа быць, вечарам у тэатры будуць паказваць “Тутэйшых” Купалы, а на ўваходзе ўсім жадаючым будуць раздаваць нашыя сьцягі... Можа быць, і Вы, шаноўны чытач, у гэты дзень у сямейным коле ўздыміце келіхі іскрыстага віна “Князь Вітаўт” за Яе Вялікасьць Волю...

Але гэта ўсё толькі можа быць...

Гэта ўсё толькі мае мары...

Час пакажа, ён усё паставіць на сваё месца, але, што я ведаю пэўна, дык гэта тое, што нашым нашчадкам захочацца дазнацца, як гэты сьвяточны дзень сустракалі мы, што адчувалі, што рабілі, як змагаліся. А асабліва пільныя дзеткі-беларусы з будучыні расшукаюць і гэты нумар “Моладзевай Думкі”, прагартаюць пажоўклыя старонкі й зразумеюць, што за іх сьпінамі, дзякуй Богу, не пустата.



Дык вось, спецыяльна для Вас, мілыя нашчадкі, адна з маіх любімых гісторый, зьвязаных зь легендарным Міронам. Адбылося гэта 25 Сакавіка 2002 года.

Гэта быў панядзелак. Па завядзёнцы я сабрала сумку, на пляцоўцы павіталася з суседкаю, выйшла на двор. Яшчэ адзін са звычайных сакавіцкіх ранкаў, якія я бачыла на гэтым двары. Вільготны й халодны... Адзін з тысячы. І двор той жа, і тыя ж дрэвы, дзьверы, дахі... Дахі?! Дахі!!!

Божа мой, якраз перада мною, на даху дзевяціпавярховага дома, над усім дваром, на фоне шэрых нябёсаў **лунаў сьцяг. Бела-чырвона-белы...**

“Прыехалі,- падумала я.- Вось і галюцынацыі пачаліся... Менш трэба “Нашу Ніву” наноч чытаць...”

Я адыйшла некалькі крокаў, павярнулася... Не, ён сапраўды – там! Ён лунае – свабодны й такі шырокі. Белая, чырвоная і белая стужкі. Усё сапраўднае – і ў той жа час такое неверагоднае. Неба такое шэрае, дзень звычайны, а ён – лунае!...



Здаецца, я так, аслупянеўшы, утаропіўшыся ў сьцяг, прастаяла доўга, бо ўтой дзень спазьнілася на заняткі.

Увечары да нас зайшла суседка – пэнсіянэрка з шостага паверху. Узрушаная, яна распавядала суседзям, што гэта быў за дзень і чаму нас павіншавалі менавіта такім сьцягам...

Яшчэ некалькі ранкаў я пачынала з таго, што любавалася сьцягам і чытала “Магутны Божа”. А пасьля... — Вы самі ведаеце, што пасьля адбываецца зь міронаўскімі сьцягамі.

І я падумала: так, у нас пакуль не вісяць расьцяжкі-вішаваньні “Жыве Беларусь” на вуліцы Кастуся Каліноўскага, пакуль у нас і вуліцы такой няма, у школах ня вучаць шанаваць першы Беларускі Ўрад, “Тутэйшых” час ад часу здымаюць са сцэны, але... Нават зараз мы можам адзначыць гэтае сьвята – сьвяты дзень абвяшчэньня Незалежнасьці БНР — у сваіх сэрцах.

Дык змагаймася ж за сваё права пачувацца **вольнымі й шчасьлівымі**, быць **годнымі памяці нашых продкаў!**

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**

**Наталька ХАРЫТАНЮК**

# ТАКАЯ РОДНАЯ Й НЕВЯДОМАЯ БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА




**Дзень 25 сакавіка 1918 года стаўся пачаткам доўгага й цяжкага шляху беларускага народу да незалежнасьці. І сёньня ніхто ні аспрэчыць той факт, што не было б БНР – не было б ні бальшавіцкай БССР, ні дэмакратычнай Рэспублікі Беларусь. А беларуская нацыя згубілася б у лябірынтах гістарычных падзеяў.**

Але ж імпэрскія амбіцыі суседніх з Беларусьсю дзяржаваў: Расеі, Польшчы і Нямеччыны заўсёды імкнуліся ўсталяваць свае законы на нашай зямлі. Усебеларускі кангрэс, які адбыўся ў сьнежні 1917 года, выказваўся за аўтаномную Беларусь у складзе фэдэратыўнай савецкай Расеі. Але ж нават такая пастанова выклікала абурэньне кіраўнікоў бальшавіцкай партыі, і яны выкарысталі сілу. Начальнік гарнізона "Заходняй вобласьці" (так яны называлі Беларусь) М. Крывашэін увёў войскі ў залю паседжаньня. Праца кангрэсу была гвалтоўна спыненая, прэзыдыюм і шэраг дэлегатаў арыштаваныя. Але кангрэс пасьпеў стварыць выканаўчы камітэт, які на той час заставаўся адзіным законным органам, прадстаўляючым інтарэсы беларускага народу. У лютым-сакавіку 1918 года кангрэс быў папоўнены прадстаўнікамі з месцаў і ператвораны ў беларускі парлямент – Раду Беларускай Народнай Рэспублікі.

У склад Народнага Сакратарыяту Рады БНР увайшлі *Я. Варонка* (старшыня і народны сакратар замежных справаў), народныя сакратары: *І. Серада* (народнай гаспадаркі), *Я. Бялевіч* (юстыцыі), *Г. Белкінд* (фінансаў), *Т. Грыб* (землярobства), *К. Езавітаў* (вайсковых справаў), *І. Макрэеў* (унутраных справаў), *А. Смоліч* (асьветы), *П. Бадунова* (апекі), *В. Рэдзька* (шляхоў зносін), *А. Карач* (пошты й тэлеграфа), *П. Крэчэўскі* (кантролю), *П. Злобін* (расейскіх справаў), *Л. Гутман* (габрайскіх справаў). Скарбнікам стаў *В. Захарка*, кіраўніком канцалярыі - *Л. Заяц*.

25 сакавіка 1918 года Рада БНР 3-й устаўной граматай абвясьціла Беларусь вольнай і незалежнай дзяржавай. Устанаўліваўся 8-гадзінны працоўны дзень; лясы, вазёры і нетры нацыяналізаваліся; зямля бязь выкупу передавалася тым, хто на ёй працуе. Абвяшчалася вольнасьць слова, друку, сходаў, забастовак, веравызнаньня, хаўрусаў, незачэпнасьць асобы й памяшканьня. Нацыянальным меншасьцям на беларускай зямлі гарантавалася права на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію. Межы Беларускай Народнай Рэспублікі вызначаліся там, дзе жыве і мае лічбавую перавагу беларускі народ, беларускія часьці Меншчыны, Гарадзеншчыны (з Гародняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежных часьцяў суседніх губэрняў, заселеных беларусамі.

За кароткі час Народны Сакратарыят Рады БНР здолеў арганізаваць школьную справу, працу выдавецтваў, выпуск газэт і часопісаў. Летам 1918 года адкрыліся консульствы БНР на Украіне і ў Летуве. Адначасна ў Латвію, Эстонію, Чэхаславаччыну, Баўгарыю, Фінляндыю, Турэччыну былі накіраваныя дыпляматычныя ці ваенна-дыпляматычныя місіі. Быў распрацаваны пашпарт БНР, зацьверджаны бел-чырвона-белы сьцяг і герб "Пагоня".

Пры канцы лютага ў Менск, дзе знаходзіўся ўрад БНР, прыйшлі войскі кайзераўскай Нямеччыны. Яны забралі касу Народнага Сакратарыяту, сарвалі з яго будынка бел-чырвона-белы сьцяг і выгналі службоўцаў. Лідары БНР былі папярэджаныя, што акупацыйныя ўлады не дапусьцяць у Беларусі сур'ёзнай





*Прэзідынт БНР Івонка Сурвілла (з правага боку)*

палітычнай дзейнасьці. Паводле дамоваў у Берасьці з бальшавікамі, немцы абавязаліся не прызнаваць новых дзяржаўных утварэньняў на тэрыторыі былой Расейскай імпэрыі.

Урад БНР не трымаўся ў сваёй дзейнасьці й польскіх інтарэсаў. Ён катэгарычна адхіляў прэтэнзіі заходняга суседа на нашыя землі.

Калі ж у сьнежні 1918 года Чырвоная Армія заняла Менск, урад БНР выехаў у эміграцыю.

Дзесяцімесячнае існаваньне БНР, стварэньне нацыянальных інстытутаў паўплывалі на зьмены ў адносінах ленінскага ўрада да Беларусі: замест адмаўленьня беларусаў як самастойнага народа было вырашана ўтварыць буфэрную марыянэткавую рэспубліку. Што і адбылося 1 студзеня 1919 года. Старшынёй часовага рэвалюцыйнага ўрада БССР быў зацьверджаны Зьміцер Жылуновіч (Цішка Гартны).

У эміграцыі ўрад Беларускае Народнае Рэспублікі не прызнаваў Рыжскіх пагадненьняў, публічна называючы Расею й Польшчу акупантамі, пасьлядоўна выступаў за аб'яднаньне беларускага народа ў адной дзяржаве.

Існаваньне ўрада БНР моцна раздражняла бальшавікоў. Іх спэцсужбы ў 1925 годзе распрацавалі апэрацыю па скасаваньні БНР і перадачы мандатаў у БССР. Бальшавіцкія агенты пачалі актыўную "апрацоўку" часткі сябраў Рады БНР, спасылаючыся на дасягненьні беларусізацыі, абяцаючы тым, хто вернецца ў Менск, высокія пасады ў дзяржаўных установах. Актыўным прыхільнікам вяртаньня ў БССР стаў Аляксандар Цьвікевіч, старшыня Рады Міністраў і міністр замежных справаў. 4 кастрычніка 1925 года Рада Народных Міністраў БНР перадала Пятру Крычэўскаму старшыні Прэзыдуму Рады БНР, просьбу аб адстаўцы, якая была задаволеная.

На Бэрлінскай канфэрэнцыі перамаглі прыхільнікі вяртаньня ў БССР, якія прызналі Менск адзіным цэнтрам нацыянальна-культурнага адраджэньня і пастанавілі перадаць мандаты эміграцыйнага ўрада ўраду БССР. Гэтая акцыя была шырока разрэклямаваная ў друку Савецкай Беларусі. Але ж Прэзыдыум Рады, будучы найвышэйшым кіруючым органам БНР, не пагадзіўся зь ліквідацыяй БНР.

У лістападзе 1925 года ў прэсе Чэхаславаччыны з'явіліся паведамленьні, падпісаныя старшынём Прэзыдыума Рады П.Крэчэўскім, у якіх ён пераканаўча давёў несапраўднасьць абвешчанай у БССР "самаліквідацыі БНР". З тае прычыны што значная частка ўрадаўцаў выехала ў Менск, была зробленая рэарганізацыя кіраўніцтва БНР і ўведзеная пасада прэзыдэнта. Першым прэзыдэнтам стаў Пётра Крэчэўскі. Інстытуцыя прэзыдэнцтва захавалася й да нашага часу. Сёньня прэзыдэнтам Рады Беларускай Народнай Рэспублікі з'яўляецца грамадзянка Канады Івонка Сурвіла.

**Сяржук БАХУН**

# АБЛАСНАЯ РАДА МАЛАДОГА ФРОНТУ

**29 лютага ў Берасьці адбылася Абласная Рада Маладога Фронту. На ёй прысутнічалі, акрамя берасьцейцаў, прадстаўнікі вобласьці (Ганцавічы, Пружаны, Малырыта, Драгічын і прадстаўнік Маладога Фронта ў Польшчы). Асноўным пытаньнем, якое павінна было быць абмеркаваным і вырашаным на Радзе, з'явілася вылучэньне кандыдата на пасаду старшыні Маладога Фронту ад Берасьцейшчыны.**

На гэтую пасаду былі прапанаваныя тры кандыдаты: сп. Сяржук Лісічонак (прапанова спн. Натальлі Харытанюк), сп. Сяржук Бахун (прапанова сп. Алеся Ушакова, які агучыў рашэньне гарадзкой Рады), і сп. Зьміцер Дашкевіч (прапанова спн. Насты Азарка).

На пачатку Рады кандыдаты выступілі з кароткімі прамовамі, вытрымкі з якіх прыведзены ніжэй. Паколькі на сп. Сяржука Лісічонка чакалі справы ў Менску, то ён выступіў першым. Сп. Лісічонак павітаўся з удзельнікамі Рады й зазначыў, што **"калі вы робіце выбар, то трэба рабіць яго не супраць чагосьці, а дзеля чагосьці". "...Для мяне сапраўдным нацыянальным лідэрам мусіць быць малады чалавек, поўны адвагі, як Каліноўскі, у каго талент, як у Купалы і такая чульлівая душа, як у Багдановіча..."**.

Потым выступіў сп. Зьміцер Дашкевіч, які агучыў сваю стратэгію дзеяньня і адказаў на пытаньні ўдзельнікаў Рады. Ён назваў Малады Фронт арганізацыяй **"рэальнага супраціву, якая выходзіць на вуліцы і выводзіць за сабой людзей"**. І паабяцаў змагацца **"як заўсёды – мы агітуем людзей, ходзім на мітынгі ў першых шэрагах, садзімся"**. Ды адзначыў, **"што ў Беларусі спадзяваньні толькі на Малады Фронт, а ў нас спадзяваньні толькі на рэальны спраціў. І мы не дазволімператварыць МФ ў структуру трэцяга сэктару, з нейкімі "энжэошнымі" каштоўнасьцямі. Мы не трэці сэктар, мы – Фронт."**

Пасьля чаго сп. Сяржук Бахун выступіў са сваёй прамовай. **"Нельга**

**ставіць аднабаковыя прыярытэты і рабіць ухіл толькі на адзін від дзейнасьці. Малады Фронт мусіць прысутнічаць паўсюль, дзе толькі магчыма, пачынаючы ад спартовых і вулічных акцыяў, скончваючы міжнароднымі сустрэчамі і сэмінарамі. І ва ўсіх кірунках дзейнасьці ў МФ павінны дзейнічаць спэцыялісты сваёй справы."**

Трэба адзначыць вынікі галасаваньня, паводле якіх сп. Сяржук Бахун атрымаў большасьць галасоў "за". Такім чынам, ён і з'явіўся кандыдатам ад Берасьцейшчыны на пасаду кіраўніка Маладога Фронту.

Дарэчы, трэба адзначыць, што ўзел у Радзе быў вольны й прадстаўнікі рэёнаў маглі прыехаць больш шматлікім складам.

Таксама на Радзе вырашалася пытаньне аб правядзеньні футбольнага турніра, прысьвечанага Дню Волі. Турнір прызначылі на 20-га сакавіка (субота).

Нягледзячы на пытаньні, якія займалі шмат часу і выклікалі спрэчкі, ўвогуле, Рада прайшла хутка (за 1 гадзіну), бо сканчаўся тэрмін арэнды памяшканьня, якое, дарэчы, атрымалася знайсьці толькі ў апошні момант.

Пасьля Рады ўсім прадстаўнікам рэгіёнаў было зададзена пытаньне, ці згодныя яны з рашэньнем Рады.

— Як Вы ставіцеся да таго, што Берасьцейская абласная Рада МФ вылучыла на пасаду старшыні МФ Сяржука Бахуна?

**Хоміч Андрусь (Маларыта):**

— Як я стаўлюся да вылучэньня Сяржука Бахуна? Чалавек колькі часу актыўна працуе ў грамадскім руху Беларусі, маладафронтавец з сямігадовым досьведам, лідэр ад нараджэньня... Ці не заслугоўвае ён гэтага? Канешне – так. І нават болей.

**Азарка Наста (Ганцавічы):**

— Гэта было фігнёй, таму што берасьцейцаў было болей, чым рэгіяналаў. Вылучэньне спрэчнае. І ніхто не дасьць Сяржуку Бахуну ўзначаліць Малады Фронт. Будзем біцца да апошняга!

**Сасноўскі Аляксей (Белаазёрск):**

— Я Сяржука ведаю больш дзесяці гадоў. Мы зь ім даўнія таварышы. Усе яго палітычныя погляды падтрымліваю. Ён той, хто зараз патрэбны Маладому Фронту.

**Крупко Ігар (Кобрынь):**

— Добра. Ён даўно ў Маладым Фронце, шмат чаго зрабіў і для Маладога Фронту і для нашай Радзімы. Сяржук будзе варты стаць старшынём МФ.

**Васілевіч Андрэй (Берасьцейскі раён):**

— Ён зробіць усё для Маладога Фронту. Сяржук сьвядомы чалавек, які ў МФ з самога пачатку заснаваньня, ён прысьвячае гэтаму ўсё жыцьцё.

**Харытанюк Наталька (Берасьце):**

— Я толькі рада. Мне падабаецца яго пазыцыя. Сяржук варты вышэйшай пасады Маладога Фронту!

**Патапчук Раман (Пружаны):**

-- Да гэтага я адношуся абыякава. Гэта ўсё гульні. Ён не зьбіраецца балятавацца.

**Брашавец Васіль (Драгічын):**

— Вельмі станоўча! Сяржук гэта той чалавек які можа павесці Малады Фронт у патрэбным накірунку. Які павінін узначаліць Малады Фронт .

**Буян Сяргей (Столін):**

— Падтрымліваю. Ён павінен далей кіраваць. Сяржук вырас да такога ўзроўню.

**Пікула Алесь (Баранавічы):**

— Арганізацыя Малады Фронт – дэмакратычная арганізацыя. Таму кожны можа абіраць і быць абраным. Выдатна стаўлюся да яго як да чалавека. Усё будзе вырашацца на Сойме.

**Кучко Генадзь (Польская філія Берасьцейскага МФ):**

— Як прадстаўнік Польскай філіі МФ, магу сказаць, што мы падтрымліваем Сяржука Бахуна ў ягоных пачынаньнях і бясспрэчна падтрымаем яго на Сойме. МФ ужо ня тая арганізацыя, што была ў 1996 годзе. Зьмяніліся спосабы дзейнасьці і стыль самой арганізацыі. Я ведаю, што калі Сяржук стане старшынёй, ён не затрымае праграсіўнага руху наперад нашай арганізацыі. Бо я ведаю што Сяржук Бахун глядзіць наперад і не зацыкліваецца на гістарычных падзеях Маладога Фронту.

**(Апытаньне праводзіла Вольга БАЙКО)**

Дарэчы, сп. Алесь Ушакоў пажадаў выказацца больш поўна:

**МОЙ ВЫБАР**

На мінулым тыдні было ўзьнята пытаньне аб вылучэньні кандыдата ад Берасьцейшчыны на пасаду старшыні Маладога Фронту. На той час былі прапанаваныя дзьве кандыдатуры: Сяржука Лісічонка і Зьміцера Дашкевіча, а мною ад імя Берасьцейскага МФ была вылучаная кандыдатура Сяржука Бахуна. На мой пагляд, не зрабіўшы гэтага, мы паступілі бы не спагадліва ў адносінах да Сяржука, так як ён мае надзвычайны вопыт працы ў нашай арганізацыі, валодае якасьцямі вопытнага кіраўніка й лідэра. Словам, усімі тымі рысамі, якія мусіць мець Старшыня Маладога Фронту.

Па праўдзе кажучы, мне спадабалася разважлівасьць і шчырасьць Сяржука Лісічонка, таксама не магла пакінуць абыякавым і напорыстасьць Зьміцера Дашкевіча. Але ж гэткімі якасьцямі валодае і Сяржук Бахун, плюс самае неабходнае, чаго (прабачце спадары канкурэнты) у вышэйзгаданых кандыдатаў няма – вопыта. За гады працы на карысьць МФ Сяржук яго набыў і нават больш, ён зарэкамэндаваў сябе найбольш падыходзячым кандыдатам на вельмі адказную пасаду старшыні.

Усё вышэйназванае, зьяўляецца маім мекаваньнем, а калі ж яно ня супадзе з чыімсьці - што ж... У канцы канцоў, спадары маладафронтаўцы, выбар прыйдзецца рабіць вам. Вам жа й прыйдзецца дзяліць адказнасьць за будучыню нашай арганізацыі. І няхай жа пераможа мудрэйшы!

Жыве Беларусь!

**Алесь Ушакоў**

Наступная Абласная Рада была прызначаная на 2-га траўня. Гэта будзе апошняя Рада перад Соймам, які мае быць 30-га траўня (але гэтая дата яшчэ дакладная). На Сойме павінны быць абраны старшыня Маладога Фронту: паглядзім як будуць разьвівацца падзеі далей, хто стане кіраўніком МФ на бліжэйшыя два гады.

**Ганулька ЗЬНІЧКА**



# «МАЛАДАЯ БЕЛАРУСЬ» - ГІСТОРЫЯ ПАЎТАРАЕЦЦА

**Калі ў студзені 2004 году група маладых палітыкаў заявіла аб стварэньні супольнага выбарчага блёку і паабяцала рашуча змагацца за перамогу, некаторыя паспрабавалі адмахнуцца ад гэтага як ад справы летуценнай і бесперспектыўнай. "Што? Моладзь ідзе ў вялікую палітыку?" – запытвалі яны адзін аднога. І самі сабе ж адказвалі: "Ды не сьмяшыце вы нас!" І рабілі выгляд, быццам бы нічога не адбываецца.**

І дарэмна. Бо такія лысыя дзядзькі не памятаюць урокаў гісторыя. Яны забываюцца пра досьвед Сэрбіі, скінуўшай дыктатара. Яны забываюцца на гісторыю нашай краіны з яе назаўжды маладымі Скарынаю, Каліноўскім і Багдановічам. Яны забываюцца на стагодзьдзі вечна маладымі Александрам Македонскім, Жаннай д'Арк і сотнямі іншых маладых, чыя жалезная воля накіроўвала разьвіцьцё сусьветнай гісторыі!

Калі напрыканцы першай паловы XIX ст. пасьля бясконцых рэвалюцыяў і хваляваньняў у Эўропе рэвалюцыйна-дэмакратычны рух быў амаль вынішчаны, рассеяны, высьвілася, што засталося ўсё ж такі адное дрэва змаганьня. "Маладая Эўропа" называлася яно тады і зьяўлялася ці не апошнім шанцам для тысячаў прыгнечаных. Разгалінаваная па ўсёй Эўропе арганізацыя, ў склад якой уваходзілі змагары за дэмакратычныя пераўтварэньні зь Нямеччыны, Італіі, Бельгіі, Польшчы і іншых краінаў. І аб'яднаныя яны былі непахіснай верай у лепшую долю нягледзячы на самы жорсткі час. І іх намаганьні прынесьлі плён, якога і не чакаў ніхто, апроч саміх маладзёнаў.




Джузэпэ Гарыбальдзі, адзін з заснавальнікаў "Маладой Італіі", не пабаяўся сам толькі з тысячай прыхільнікаў узяць на сябе адказнасьць вярнуць Радзіме еднасьць і суверэнітэт супрацьстаючы дзесяткам тысячаў ворагаў. І што ж? Італія зноў стала свабоднай і незалежнай, а імя Джузэпэ назаўжды высечанае золатам ў кнізе італьянскай гісторыі.

А самы радыкальны па сваіх мэтах маладзевы палітычны рух – "Маладая Турэччына»? Хіба не гэтыя маладыя палітыкі, што жылі на пачатку XX стагодзьдзя ў Асманскай імпэрыі (самай сапраўднай дэспатычнай, усходняй імпэрыі, дзе дыктатар быў ледзьве не цэнтрам сусьвету), змаглі ўзьняцца і накіраваць іхную краіну на шлях да набліжэньня да Эўропы, прэч ад дэспатыі. Ужо зараз традыцыйна мусульманская Турэччына зьбіраецца ўступаць у Эўрапейскі Зьвяз. І толькі Беларусь, дзе старэйшыя таварышы па ранейшаму не хочуць заўважаць маладую сілу, яшчэ не вызначылася, што будзе далей. Пакуль баязьліўцы усё яшчэ вырашаюць, што рабіць далей, беларуская моладзь сьмела бярэ адказнасьць за лёс Беларусі на сябе. І ўжо шэрагі "Маладой Беларусі" растуць, а грамадзтва пачынае азірацца на ропат маладых: "А хто ж там ідзе?"

А ідзем мы з вамі. Каб негледзячы на бесхрыбетнасьць старэйшых узваліць на сябе адказнасьць за будучыню нашай краіны. За будучыню нашай Беларусі.

**Сяржук ЛІСІЧОНАК,**
намесьнік старшыні Маладога Фронту

---

# ПАГУЛЯЛІ МЫ Ў ФУТБОЛ

***"5 кастрычніка 2003 года ў Берасьці незарэгістраваная філія "Маладога Фронту" і "Аб'яднаная Грамадзянская Партыя" сумесна правялі мініфутбольны турнір, у якім прынялі ўдзел каманды: "Пагоня" (Малады Фронт), "АГП" (Аб'яднаная Грамадзянская Партыя), "МСД" (Маладыя Сацыял-Дэмакраты – Беларуская сацыяльна-дэмакратычная партыя (Народная Грамада), "ПКБ" (Партыя камуністаў Беларусі) і таксама аб'яднаная каманда "Сябры НАТА" і "БСДГ" (Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада). Мэтай гэтага мерапрыемства было паказаць магчымасьць сумеснай працы партый і аб'яднаньняў Берасьцейскага рэгіёну. Калі турнір быў скончаны, усе каманды атрымалі прызы і напрыканцы была аддана даніна павагі Генадзю Самойленка, каторы быў зачынальнікам такіх мінітурніраў на берасьцейшчыне.***

**Прэсс служба Берасьцейскага Маладога Фронту".**

Вось такі рэліз быў дасланы на некаторыя беларускамоўныя перыядычныя выданьні і радыёстанцыі пасля правядзеньня гэтага турніру. У чытача гэты артыкул можа выклікаць зьдзіўленьне: "А чаму пісаць пра міні-футбольны турнір, які быў амаль паўгады таму?". Таму што пасьля гэтага турніру вылікага жаданьня пісаць пра "гэта" не было. Чаму? Паспрабуем разабрацца...

Першапачаткова ў "Маладым Фронце" з'явілася ідэя арганізаваць турнір памяці Генадзя Самойленкі (аднаго зь найактыўнейшых грамадскіх дзеячоў Берасьцейшчыны). Калі пачалася падрыхтоўка да турніра, з прапановаю стаць суарганізатарамі з'явіліся "Аб'яднаная Грамадзянская Партыя" (улічваючы што Генадзь Самойленка быў сябрам гэтай партыі – гэта з'яўлялася прагназаваным). Адразу былі размеркаваныя ролі: "Малады Фронт" займаецца арганізатарскімі пытаньнямі (знайсьці пляцоўку, запрасіць каманды, забяспечыць судзейства і пратаколы матчаў), а АГП на сябе ўзялі фінансавыя пытаньні (прызы і харчаваньне для ўдзельнікаў турніру). Першапачаткова да ўдзелу запрашаліся ўсе жадаючыя: галоўны крытэр для ўдзелу –"непрафесыйнасьць" футбалёраў.

Але ж потым АГП сталі ініцыятарамі таго, каб турнір быў толькі дзеля партыйных камандаў. На прапанову адзінага судзейства і пратаколаў матчаў у дзень турніра аргкамітэт з боку

АГП заявіў: "Мы зьбіраемся проста пабегаць у футбол, каб паказаць, што розныя партыі могуць рэальна працаваць разам". Зь падачы АГП(!) турнір не быў турнірам памяці Г.Самойленкі ("Проста некаторыя каманды ня будуць тады гуляць" – аргумант ад АГП)... Ды й "проста" ў футбол пабегаць таксама не атрымалася...

Але пярэйдзем непасрэдна да турніра.

Надвор'е ў дзень турніра было дрэннае, але ж не жудаснае. Церушыў дожджык. Пастаянна і даволі моцна. Народ пачаў зьбірацца недзе ўжо а 12-ай гадзіне. Пачалося развешваньне сьцягоў зь сымболікай каманд-удзельнікаў. Сьцягі прымацоўваліся непасрэдна на дрот, які акружаў закрытую міні-футбольную пляцоўку. Невядома чаму (можа надвор'е паўплывала) але шмат людзей не прышло. У выніку адразу тры каманды з'явіліся неўкамплектаванымі: "Пагоня-МФ", "Сябры НАТА" і "БСДГ". Пасьля некаторых перамоў "Сябры НАТА" аб'ядналіся з "БСДГ", а каманда "Маладога Фронту" была ўкамплектавана гімназістамі першай гімназіі.



У выніку ўсё распачалося а 13:30 (замест плянаваўшагася 13:00). Спачатку была ўрачыстая частка адкрыцця турніру. Потым пачаліся гульні.

Першымі сустракаліся "АГП" і "ПКБ". Камуністы пры даволі нядрэннай гульні прайгралі 0:2. каманда "АГП" гуляла ў аднолькавых белых кашулях і адчувалася, што гуляюць яны ў футбол не першы раз...

Другімі гулялі "Пагоня-МФ" і "МСД". Маладафронтаўская каманда была біта 0:5. Калі ў дачыненьні каманды "АГП" былі падазрэньні (ў дачыненьні іх "непрафесіянальнасьці"), то ў дачыненьні "МСД" не было нават і падазрэньняў: гэтыя хлапцы гуляюць у футбол ужо доўга і на даволі высокім узроўні.

У трэцяй гульні сышліся аб'яднаная каманда "Сябры НАТА/БСДГ" і "АГП". Ізноў "АГП" сьветкавалі перамогу, але на гэты раз з лікам 3:0. Каманда выглядала аб'ектыўна лепш за "сяброў паўночнага альянсу".

Чацьвёрты матч. "ПКБ" – "Пагоня-МФ" – ізноўку параза маладафронтаўскай каманды – 0:5. У камуністаў (у адрозненьні ад ад "Пагоні") ў атакуючых дзеяньнях атрымоўвалася лепш, а вось маладафронтаўцам катастрафічна не хапала фартуны...

Пяты матч (які стаў галоўным). Сустракаліся лепшыя каманды турніру "АГП" і "МСД". Гульня была цікавая. Напружаная барацьба на кожным сантыметры пляцоўкі часам вылівалася ў некаторыя канфлікты, якія секліся на карню дзеяньнямі суддзі і астатніх удзельнікаў турніру. У выніку – заслужаная перамога "МСД" – 3:0. Іх камбінацыйны футбол быў больш якасны.

Наступная гульня прынесла перамогу "камуністам", якія даволі ўпэўненна правялі гульню, над камандай "Сябры НАТА/БСДГ" з лікам 5:0.

Абазлёныя сваёй паразай "АГП" вымесьцілі сваю злосьць на маладафронтаўскай "Пагоні" – 5:0. Маладафронтаўцы былі вымушаныя гуляць ад абароны з рэдкімі контравыпадамі, якія не прынеслі плёнаў. Хаця меліся добрыя магчымасьці.

Восьмы матч. "АГП" адгуляла ўсе свае гульні (3 перамогі і параза ад "МСД"), а "МСД" выходзіць на пляцоўку супраць "Сяброў НАТА/БСДГ" і потым (адразу!!) супраць набраўшага ход бронецягніка "ПКБ". Першы матч прашоў пад дыктоўку "МСД", але вынік быў даволі сьціплы – 2:0 перамога "МСД".

Тут да мяне (я выконваў абавязкі суддзі) падыходзіць арганізатар ад "АГП" і ў жартаўлівай форме кажа "ПКБ" "павінны перамагчы" і падміргвае. Я адказваю, што: "Гэта залежыць ад камандаў" і матч пачынаецца. Увесь матч ідзе ўпартая і багатая на адзінаборствы гульня... Фінальны гвіздок – 4:0, на карысьць "МСД". Яны першыя.

Але застаецца апошні матч. Вырашаўся лёс апошняга месца паміж "Пагоняй-МФ" і "Сябрамі НАТА/БСДГ". Маладафронтаўцы перад гэтым матчам засталіся без лаўкі запасных, але і гэта не перашкодзіла ім перамагчы даволі ўпэўненна – 2:0.

Вось і ўсё – турнір скончаны.

Першыя – "Маладыя Сацыял-Дэмакраты".

Другія – "Аб'яднаная Грамадзянская Партыя".

Трэція – "Партыя Камуністаў Беларусі".

Чацьвёртыя – "Пагоня-МФ".

Пятыя – "Сябры НАТА/БСДГ".

Цікава, але ў прэсрэлізе ад "АГП" каманда "Маладога Фронту" была названая камандай БНФ"Адраджэньне". Мы канешне не супраць, але ж можна было б спачатку з намі параіцца.

Калі падводзіць вынікі турніру, то вось яны:

Шкада што не атрымалася заставіць палітыку па-за межамі футбольнай пляцоўкі. Але можа як раз гэта і дазволіла заўважыць яшчэ некаторыя падводныя камяні пры падрыхтоўцы і правядзеньні падобных мерапрыемстваў, якія ў будучым будзем мець на ўвазе.

Як сказаў бы адзін чалавек: "Маладафронтаўскімі рукамі заграблі жар".

**P.S.** Самай цікавай адметнасьцю гэтага турніту было тое, што калі каманда забівала – то яна ў выніку і перамагала. Пры гэтым з "сухім" лікам.

Можа таму, што і ў жыцьці (і ў палітыцы таксама) ня можа быць нічый – ці перамога, ці параза. Трэцяга не дано.

P.P.S.Трэба адзначыць, што "Малады Фронт" гуляў тады ў гонар памяці Генадзя Самойленкі.

**Андрусь ХОМІЧ**



# МАЛАДЫ ФРОНТ КАХАНЬНЯ

**На Дзень сьв. Валянціна, 14 лютага, берасьцейскі Малады Фронт зноў-такі выйшаў на вуліцы роднага горада, каб правесьці акцыю, прысьвечаную Дню закаханых.**

МФ-аўцы ў складзе каля дваццаці чалавек выйшлі "шчыльнымі радамі на вольны родны свой прастор", то бок на вуліцу Савецкую. Узброеныя белымі і чырвонымі балёнікамі, валянцінкамі, усьмешкамі і крыламі, якія павінны былі рабіць з нас анёлаў, мы пачалі актыўна віншаваць усіх запар.

Так прыемна было бачыць усьмешкі на тварах людзей, зьдзіўленьне і шчырыя падзякі! Мы жартавалі, віншавалі, забаўляліся як маглі, карацей, стваралі сьвяточны настрой сабе, людзям і вуліцы. І з надвор'ем нам пашчасьціла: было ня вельмі халодна, цярушыў лёгкі сьняжок ды грэлі цёплыя ўсьмешкі.



А калі нам яшчэ ўключылі ў музычным шапіку песьню "Госьці", дык увогуле стварылася такое адчуваньне, што гэтая вуліца – наша і для нас, і горад наш, і ўся краіна! Табе ўсьміхаюцца людзі, радуюцца, кажуць "Дзякуй"! Разумееце, "дзякуй" а не "спасіба"! Хаця, канешне, здараліся выняткі-"спасібы", але, што цікава, на адным узроўні з "дзенькуе".

Наколькі цікава было сачыць за рэакцыямі мінакоў! Вось ты кажаш: "Добры дзень, я анёл! Віньшую Вас са сьвятам! Шчасьця Вам і каханьня!"

Добра, калі яшчэ чалавек спакойны патрапіць. А як тое, дык адразу жах нейкі ў вачох і хваляваньне за тваё душэўнае здароўе. А потым падаруеш валянцінку, скажаш пару добры словаў, усьміхнешся... Жах у вачох кудысь зьнікае, але ж цікавасьць да твайго псыхічнага стану, напэўна, усё ж варушыцца дзесь у нетрах сьвядомасьці. Што ж зробіш – не прывык наш народ да дабрыні, шчырасьці і неспадзяванак.

Людзі, ёсьць яшчэ ў гэтым сьвеце нешта добрае! А калі сумняваецеся, дык зрабіце прыемную неспадзяванку блізкаму чалавеку. І потым не кажыце, што ў Беларусі няма шчырасьці і дабрыні!

**Ганна ЗЬНІЧКА**

# ГІСТОРЫЯ ЯШЧЭ АДНАГО ЗАТРЫМАНЬНЯ

**Гэта было ў траўні 2001 году, за некалькі месяцаў да тагачасных прэзыдэнцкіх выбараў, калі актыўнасьць апазыцыі, асабліва ейнай моладзевай часткі, была досыць вялікай. На той час у мяне ўжо быў даволі вялікі стаж патрапленьняў у міліцыю, і я стаў крыху больш асьцярожным і абачлівым, бо не было жаданьня пасьля кожнай акцыі сядзець на сутках. Але ня браць удзел у акцыях— гэта зусім ня выхад і паказ слабасьці.**

Дык вось, пасьля чарговага мерапрыемства мяне "замялі", у чым была недзе й мая віна, бо занадта ўжо "лез наражон". Як заўсёды, пасадзілі ў варанок, дзе клетка разьмешчаная ззаду, асобна ад міліцыянтаў. Мяне гэта ўсьцешыла, бо калі цябе садзяць у "казла" на задняе крэсла паміж двух міліцыянтаў, можна ад іх яшчэ й атрымаць, асабліва калі "ляпнеш" нешта "ня тое".

Прывезьлі мяне ў родны Савецкі РАУС г. Менску, дзе ўжо бываў не адзін раз, і мяне там шмат хто ведаў. Як заўсёды, пасадзілі ў клясу, якая разьмешчаная ў цокальным паверсе, пачалі перапісваць. Я быў прывезены адным зь першых, потым затрымыных набралося чалавек дваццаць пяць. Нейкі палкоўнік усё пытаўся, ці ёсьць сярод затрыманых Севярынец. Тут два ці тры чалавекі пачалі казаць, што яны журналісты, і паказваць міліцыянтам свае пасьведчаньні. Неўзабаве іх адпусьцілі. Проста сказалі, што яны могуць ісьці. І яны пайшлі.

Хвілін праз пяць пасьля гэтага я і яшчэ адзін хлопец папрасіліся ў прыбіральню. Туды нас павёў даволі ветлівы старэйшы лейтэнант. Паказаў, дзе яна знаходзіцца (хоць я і так ведаў, ня першы раз усё ж такі), і стаў чакаць. Але раптам яго паклікаў кудысьці больш старэйшы афіцэр. Тут мне адразу ўзгадаліся журналісты, адпушчаныя пяць хвілін таму, і я зразумеў, што гэта мой шанец, дый сядзець 15 сутак зусім не хацелася. Замест прыбіральні я і Андрэй (так клікалі хлопца, якога вялі са мной) скіраваліся наўпрост да выхаду. На КПП сядзелі два міліцыянты, якім я назваў ужо вядомае мне прозьвішча старлея, што вёў нас у прыбіральню, і сказаў, што той нас адпусьціў. Міліцыянты сказалі дакладна наступнае: "Валіце адсюль, ды пахутчэй!", што мы пасьпяхова й

зрабілі. Выйшлі на ганак, дзе было паўно людзей у форме, і сярэднім крокам пайшлі прэч ад РАУСу. Ніхто на нас нават асаблівай увагі не зьвярнуў.

Да, а ў прыбіральню мы так і не зхадзілі", — сказаў я Андрэю, перакідваючы бутэльку "Аліварыі".

Гэта было маім самым "удалым" затрыманьнем, калі ўвогуле затрыманьні можна называць удалымі.

Раніцой наступнага дня мне дахаты патэлефанаваў участковы, спытаўся мяне, бо дадзеныя ў міліцыі мае усё ж такі перапісалі. Маці падняла слухаўку й дзяжурна адказала, што я зьехаў, надоўга, і яна ня ведае, калі вярнуся.

Пасьля гэтага і яшчэ аднаго выпадку, калі ўчастковы чатыры дні запар у шэсьць раніцы званіў мне ў кватэру, каб уручыць мне павестку ў суд, а я не адчыняў (урэшце мяне вылавілі на вуліцы)—да мяне некалькі разоў прыстаўлялі асобнага міліцыянта, у задачу якога ўваходзіла сачыць за тым, каб я ня зьбёг. Але дзякуй Богу, у Савецкім РАУСе я ўжо даўно ня быў.

**Зьміцер КАСЬПЯРОВІЧ**

# ВЫШКАЛ

**"Што яшчэ за вышкал", - думаў я, седзячы ў цягніку "Берасьце-Менск", які вёз мяне на збор спартова-патрыятычнай арганізацыі "ВАЯР". Але менавіта мне "пашчасьціла" правесьці 2 дні з "адмарозкамі" дружы Міхала ў палявым лягеры пад Менскам.**



Усё ж такі, выходзячы з вагона, я ў глыбіні душы спадзяваўся, што мяне ніхто ня сустрэне, і я спакойна зьеду назад у Берасьце. Перад вагонам мяне ўжо чакаў хлопец у натаўскім камуфляжным бушлаце і шрамам на твары. Яго адметнасьцю быў значак "ВАЯРа". Мы павіталіся. "Берасьцеец?" - толькі і запытаўся ён і, не чакаючы майго адказу, назваў свой псэўданім: "Цьвях". Мы пайшлі ў бок будынка чыгуначнага вакзала. Я стаміўся ў дарозе і таму вырашыў набыць сабе піва, пра што паведаміў свайму новаму знаёмаму. "Я б не раіў", - неадназначна ухмыльнуўся Цьвях, але збочыў да шапікаў і дазволіў мне набыць бутэльку "Лідзкага".

Увесь астатні час да месца збору на ўсе мае спробы даведацца аб тым, што будзе на вышкале, мой праваднік толькі паўтараў: "Там усё ўбачыш".

На патрэбнай плятформе нас сустракала група сур'ёзных хлапцоў з вялікімі заплечнікамі. "А дзе Міхал?" - задаў я сваё чарговае непатрэбнае пытаньне. ВАЯРоўцы паглядзелі на мяне з жалем, адзін зь іх ўсё ж такі патлумачыў, што Міхал зьявіцца тады, калі трэба будзе. "Увогуле, ты задаеш зашмат пытаньняў", - зазначыў ён. Міхал насамрэч зьявіўся ў патрэбны момант, дакладней калі ў вагон увайшлі кантралёры. Ён паказаў ім нашыя квіткі і зноў некуды зьнік.

Папіць піва не атрымалася, таму што на маё: "Можа піўка?", на мяне зноўку паглядзелі з жалем. Яшчэ праз гадзіну я, як і большасьць, ВАЯРоўцаў заснуў. Прачнуўся ад таго, што Цьвях штурхае мяне ў бок: "На выхад", - коратка сказаў ён. Тут увогуле ўсе казалі коратка.

На плятформе нас чакаў Міхал, ён махнуў рукой і мы рушылі за ім у бок лесу. Як толькі за намі самкнуліся дрэвы, ён загадаў: "У адну калёну, за мной бягом руш".

Сьнег быў не глыбокі, і спачатку бегчы было нават прыемна. Але праз паўгадзіны я пашкадаваў аб тым, што кінуў займацца лёгкай атлетыкай. Потым мы паўгадзіны ішлі праз балота і зноўку беглі па лесе.

І вось мы на паляне. Нас сустракае хлопец у камуфляжы з нашыўкамі капрала на рукаве. Перш наперш ён абшуквае нас і канфіскуе ў мяне бутэльку піва і паляўнічы нож, яшчэ некалькі нажоў і газавых балёньчыкаў у астатніх хлопцаў. Як пачатковец, за піва я адціскаюсь дваццаць разоў на кулаках, і мы рушым у лягер.

Лягер - гэта паляна з чатырма вайсковымі намётамі на шэсьць месцаў кожны. Намёты абсыпаныя сьнегам. Пасярод паляны гарыць вогнішча. Спачатку нас шыхтуюць, знаёмімся інструктаж, потым раскідваем рэчы па намётах і пачалося...

Палявыя заняткі пачынаюцца з паласы перашкодаў. Вышка, роў, сьцяна, бервяно, канат, яма, путанка, поўзанка і танэль, потым яшчэ і яшчэ. Затым праход паласы. Пад нагамі ірвуцца петарды, гараць дымавыя шашкі, а над галавой дружыновы Усьцім і ягоны крык: "Хутчэй! Вы што зьбіраецеся жыць вечна?".

Пасля паласы перашкодаў мы азартна страляем з пнеўматычных вінтовак "ЮНКЕР" (знешне копія АК-74) і пнеўматычных пісталетаў МП 651К.

І зноўку фізічныя заняткі: адціскканьні, прэс, прабежка да лягеру. Там нас чакае вячэра - макароны з мясам і гарбата з печывам. А 21-й гадзіне мы сядаем ля вогнішча і Міхал кажа: "Вядомы навуковец, прафэсар гісторыі, адзін з заснавальнікаў усяе сучаснае заходняе гісторыяграфіі, Марк Блёк (ён жа актыўны баец і адзін з лідараў французскага супраціву ў гады гітлераўскай акупацыі) неяк сказаў: "**Ёсьць прафэсыйныя вайскоўцы, якія ніколі ня стануць сапраўднымі ваярамі, і ёсьць выключна цывільныя людзі – ваяры ад нараджэньня...**". Дружыновы Цьвях запеў, гледзячы на вогнішча і прытопваючы ў такт дзіравым берцам: "Войска літоўскае рушыць у паход..." А 22-й гадзіне мы разыходзімся па намётах. Апошняе, пра што я падумаў у гэты дзень, было: "Навошта я тут? Што я, прафэсыйны журналіст, раблю тут?"

Але надыходзіць раніца, і нас падымаюць а 6-й .Мы зноў шыхтуемся на паляне, потым руханка: прабежка, адцісканьні, прэс... Потым сьняданак: рысавая каша са згушчонкай, кава з малаком. Потым нам абвяшчаюць плян заняткаў на дзень. Да абеду нас чакалі паласа перашкодаў, спарынгі, рукапашны бой і спэцыяльныя тактычныя заняткі. Падчас абеду я спрабую паразмаўляць са зьвязным Міхалам. На ўсе мае пытаньні, навошта мы гэта робім, навошта так зьдзекуемся зь сябе, ён адказвае: "Мы зьбіраемся ў лесе і апранаемся ў камуфляж. Робім гэта не для таго, каб пагуляцца ў вайну, як у дзяцінстве, а потым зьняць форму і стаць звычайнымі студэнтамі і навучэнцамі. Мы спрабуем перамагчы сябе і даказаць, што здольныя ня толькі на тое, каб піць піва. Мы рыхтуемся бараніць сябе, сваю сям'ю і, калі спатрэбіцца, сваю Радзіму".

Пасьля абеду ўсё адбываецца паводле ўчорашняга сцэнару, але ёсьць адно зьмяненьне. Замест стральбы з пнэўматыкі па мішэнях мы дружна штурмуем бетанаваны дот часоў другой сусьветнай вайны. У гэты час спадары Цьвях, Усьцім і Шаміль азартна, як учора, страляюць па нас з маркераў для гульні ў пэйнтбол РМ-96, кідаюць петарды і дымавыя шашкі. Калі мы ўсё ж такі дабіраемся да ўваходу ў дот і ўжо зьбіраемся ўступіць у рукапашную сутычку з яго абаронцамі, у неба ўзьлятае чырвоная сыгнальная ракета. Мы зьбіраем "параненых" і "забітых" і вяртаемся ў лягер. Там - вячэра, гутарка са зьвязным, які спрабуе ўбіць нам у галовы простую ісьціну.

- Мы будзем змагацца не за палітыккаў, не за грошы і не за ўладу. Мы будзем змагацца адзін за аднаго, – кажа ён нам, - спадары, вы жаўнеры ВАЯРа. Гэта азначае, што кожны з вас вышэй за любога саўковага палкоўніка. У любы час і пры любых абставінах. З разуменьнем гэтага вы павінны гераічна змагацца. Тут ніхто ня ведае, за што змагаецца. Толькі мы ведаем, што змагаемся ні за што. Гэта ганарова – змагацца ні за што. Вось яна шляхетнасьць у чыстым выглядзе. Дарэчы, запамінаць усё гэта вам ня трэба. Галоўнае рэфлексы. Мысьленьне зьнясільвае фізычныя сілы, якія спатрэбяцца вам у змаганьні. Легчы!".

Мы хутка пападалі на зямлю. "Нават у гэтым вы лепей за саўковых палкоўнікаў, - усьміхнуўся Міхал.".

Інструктаж працягваўся. Міхал падыйшоў да нас.

- Псэўда?

- Шухневіч.

- Глыбіня акопа поўнага профілю?

- Дзесьці так ці блізка да таго, - правёў жаўнер далоньню сабе па грудзёх.

- 20 адцісканьняў, - кіўнуў Міхал.

- Вашае псэўда? – зьвярнуўся Міхал да жаўнера, які нахабна глядзеў яму ў вочы.

- Студэнт.

- Адлегласьць прамога стрэлу з АК-74?

- 300 мэтраў, - выразна адказаў ён.

- Словы раз'ядноўваюць...

- Справа аб'ядноўвае! – зноўку равуць ВАЯРы.

- Псэўда?

- Валес.

- Адлегласьць між акопам і дротавай загародай?

- Мэтраў 30-40. Каб не дакінулі гранату.

- Правільна. Устаць, - зьвярнуўся зьвязны да ўсіх.

Адыходзячы ад вогнішча, Міхал на разьвітаньне кідае:

- Слава нацыі!

- Сьмерць ворагам, - ня ў адзін голас крычаць ужо зусім расслабленыя жаўнеры.

Міхал нахмурыў бровы:

- Спадары! Вашыя ворагі пражывуць яшчэ доўга. Слава нацыі!

- Сьмерць ворагам!!! – крычым мы ў адказ.

Зранку падчас інструктажу зьвязны Міхал падыходзіць да мяне і цісьне руку. Да абеду мы вучымся пераадольваць свой страх і быць упэўненымі ў сабе. Мы ходзім па бітым шкле, спускаемся з дваццацімэтровай вышыні па вяроўцы, пераправляемся праз раку па-над вадой па канаце... Потым складваньне рэчаў, згортваньне табару. Урачыстае зьняцьцё арганізацыйнага сьцягу. Усё скончылася. Нас больш не чакаюць выпрабаваньні. Мы едзем дадому.

На вакзале ў Менску да цягніка мяне праважаюць зьвязны Міхал і дружыновы Цьвях. Міхал цісьне мне руку і кажа: "Калі будзеш пісаць, пішы ўсю праўду". Цьвях вяртае мне паляўнічы нож і бутэльку піва. Мы абдымаемся зь Цьвяхам, і я залажу ў вагон. Калі я сеў на сваё месца, адразу заснуў. У Берасьці мяне будзіць праваднік. На прыпынку грамадкага транспарту я ўзгадваю пра піва. Першы глыток "Лідзкага" падаецца мне прыемным, вельмі прыемным, нават занадта. Я закрываю бутэльку і кідаю яе ў сьметніцу. У засаленай куртцы і брудных нагавіцах я вяртаюся дахаты, каб бараніць сябе, сваю сям'ю, сваю краіну.

Валер КАЧЭЎСКІ

# АДНАЗНАЧНА!

Вось жа, спадарства, хацелася б пазбавіць вас стэрэатыпаў, насаджаных пры дапамозе расейскай мовы.

Па правілах тарашкевіцы (моўнага правапісу Браніслава Тарашкевіча, прынятага ў 1918 годзе)*, дасавецкага часу, гэтае слова, "жыды", было адзіным назовам гэтага народу. Тое самае дзеецца і ў Польшчы ды Летуве: там словы Żyd, Žudas ня маюць ніякага абражальнага альбо шавіністычнага адценьня.

А вось у расейскай "жыд" гучыць як абраза, гэта вядома. Дый бачна, гвалтоўная русіфікацыя - зь якіх яшчэ гадоў! – зрабіла сваю справу, і на беларускае слова "жыд" крыўдзяцца, хаця, нагадаю, слова гэтае ня мае аніякага адмоўнага значэньня. Але ж каб пазьбегнуць некіх непаразуменьняў, нярэдка ў друку ўжываецца слова "габрэй".

Дык усё ж, спадарове, адназначна, й на "жыдоў" крыўдзіцца проста неразумна. Тым больш, абразіць нікога, далібог, не хачу й да жыдоў стаўлюся цалкам талерантна.

* - аб тарашкевіцы падрабязьней можна прачытаць у наступным артыкуле.

Ганна ЗЬНІЧКА

**У мінулым нумары "Моладзевай Думкі" ( № 2(4)) быў надрукаваны артыкул "Талерантнасьць: што гэта такое і якое дачыненьне яно мае да беларусаў?". Дык вось, дайшлі да мяне, аўтаркі, скаргі на абразу годнасьці пэўнага нараду, які ў публікацыі іменаваўся "жыды" (што, дарэчы, і расцанілася як абраза).**



# ПІШАМ ТАРАШКЕВІЦАЮ:
## 10 ПАМЯТАК БЕЛАРУСКАГА ПРАВАПІСУ

**Тарашкевіцкі правапіс нярэдка выклікае цяжкасьці ў выкарыстаньні. Для таго каб добра пісаць тарашкевіцаю, трэба выдатна ведаць беларускую мову ўвогуле. Хаця, спадзяюся, ніжэй прыведзены артыкул Вінцука Вячоркі ("Наша Ніва") неяк дапаможа вырашыць пытаньні, якія ўзьнікаюць падчас ужываньня тарашкевіцы. З 30-х гадоў беларускі правапіс разьвіваўся паступова й натуральна. Стыхійны адбор лепшых напісаньняў ішоў да 1918 году, калі Браніслаў Тарашкевіч упарадкаваў правапіс і граматыку. Сыстэма тарашкевіцы ўдакладнялася, пашыралася працаю іншых навукоўцаў (Язэп Лёсік, Ян Станкевіч), супольнаю думкаю беларускіх мовазнаўцаў (Акадэмічная канфэрэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі, Менск, 1926).**

У БССР правапіс і граматыка Тарашкевіча былі ў 1933 годзе скасаваныя ды замененая – зьнянацку, гвалтам, пры вымушаным маўчаньні навуковае грамады – на зрусыфікаваныя. На тое была адпаведная пастанова "Совнаркома". У Заходняй Беларусі, на эміграцыі ўвядзеньне наркомаўкі сустрэлі пратэстамі й надалей пісалі паводле Тарашкевіча, паводле жывое мовы. Асобныя непасьлядоўнасьці (правапіс **й**, **ў**; правапіс чужаземных словаў з дыфтонгамі) парадкаваў Антон Лёсік, а на эміграцыі – Ян Станкевіч, Валянціна Пашкевіч, іншыя.

Наркомаўка розьніцца ад тарашкевіцы найперш адарванасьцяй ад жывое мовы й клясычнае традыцыі беларушчыны. Рэформа 1933 году жывасілам увяла ў нашую мову неўласьцівыя ёй граматычныя формы й нават вымаўленчыя павілы. Зьмянілі слоўны запас, касуючы самабытнае ды ўводзячы "объеденяющее", зьмянілася нават будова сказаў. Таму, каб вярнуцца да жывое тарашкевіцы, замала толькі пісаць і вымаўляць па-тарашкевічаўскі, пакупалаваму. Але з чагось пачынаць трэба. Зручней – з правапісу.

ДЗЕСЯЦЬ ПАМЯТАК – для тых, хто ўмее пісаць наркомаўкай. Яны датычаць толькі правапісу (не граматыкі, г.зн. зьмены словаў). Тарашкевіца на некалькі пазыцыяў прасьцейшая ад наркомаўкі, бо ў ёй нашмат менш выключэньняў, да яе амаль заўсёды стасуецца прынцып "як чуваць, гэтак пішацца – і наадварот". Толькі бяда, што дзесяцігодзьдзі панаваньня наркомаўкі прывучылі многіх вымаўляць беларускае слова зусім нягслушна: чэШСкі, нЕ буду (трэба: **чэскі, ня буду** – прасьцей і куды больш сьпеўна). Але праз тарашкевіцу ёсць шанец вярнуць нашай мове спрадвечную мілагучнасьць.

1. Мяккі знак, як і належыць, назначае мяккасьць: **сЬвята, абедзЬве, празЬ мяне, цЬвёрды, сЬцЬвердзіцЬ у ФронЬце ды ў КліўленЬдзе.**

Пасьля **С З Ц ДЗ Н Ь** пішацца перад мяккімі зычнымі, апроч **Г К Х**.

(Нагадаю: мяккія будуць тыя зычныя, за якія йдуць **І Е Ё Ю Я Ь**).

**СЬвіснуў**, але **скінуў; раСЬлі**, але **беларускі. ЗЬ Лёдзяю**, але **з Лукашом, зКірпатрыкам.**

2. Разьдзяляльны мяккі знак пішам пасьля **С З Н Л** перад **Е Ё Ю Я**, а таксама **І**, калі яно пад націскам: **бязЬядзерны, зЬеду, пасЬянс, манЬяк, зЬ імі** ці **бязЬ іх.**

3. Доўгія мяккія гукі пішам празь мяккі знак: **калоСЬСе, палоЗЬЗе, суДЗЬДЗя.** Ня тычыцца прыставак на **Д: ад-дзел, ад-цеміць.**

4. Зьбегі зычных пішуцца як чуваць: **Чэх – чэСкі, Парыж – парыСкі, у Рызе – рыСкі. УзбэЦкая й КазаСкая** рэспублікі. **ГагауСкая** праблема.

Увага: **швэд-скі** вымаўляем "швэцкі", але замест глухога **Ц** пішам звонкае **ДЗ: швэДЗкі, гараДЗкі, ірлянДЗкі.**

Пішам, як чуваць: **еЖДЖу, пяШЧаны, пакаШЧык** (варыянт А. Лёсіка і Я.Станкевіча). **Я СЬмяюся – ты СЬмяеСЬСя.**

Ня тычыцца прыставак і прыназоўнікаў: **сшытак, разжыўся, бяз Чорнага.**

5. **У І** заўсёды скарачаюцца пасьля галосных, калі перад імі няма прыпынку й на іх падае націск: **на Ўкраіне, на ймя, Ганна йшла, ва ўніверсытэце, я й кажу, на Йвана, Тайлянд, аўдыякасета, Модраў з Чаўчэску.** Увага: **калёквІЮм, кансылІЮм.**

6. Чужаземныя (заходня-эўрапейскмя) словы маюць **Л** мяккае, як і ў тых мовах, адкуль яны прыйшлі: **лямант, акуляры, калёна, плян, клямка, плюралізм, клюб, мэталь, дэталь.**

Увага: у канцы слова можа быць **Л** цьвёрдае: **генэрал.**

У расейскай мове тут непасьлядоўнасьць: **Финляндия – Голландия, люмпен – луза,** бо словы йшлі праз кнігу. На Беларусь жа заходнія словы, найперш лацінскія й нямецкія, траплялі праз жывы кантакт з носьбітамі гэтых моваў, праз масавае вывучэньне тае ж лаціны ў сярэнявечнай школе.

7. З гэтае ж прычыны ў чужаземых (заходня-эўрапейскіх) словах пасьля зычных, акрамя **Л** і **К**, пішам **Э: пэрыяд, мэтар, сэрвіс, праспэкт, газэта.** Але: **анкета.**

Увага: пасьля **Г** і **Х** можа пісацца **Е: хЕўра й хЭўра, гЕнэрал і гЭнэрал.**

У чужаземных словах пасьля **З С Д Т** пішацца й вымаўляецца **Ы: сынонім, дыктар, максымум, Бралылія.**

Увага: **-зія, -сія, -зійны, -сійны** пішацца праз **І: калізія, камісійны, сэсія.**

Варта зацеміць таксама: **нактурн, мініятура, Эўропа, эўрапейскі, нэўтральны.**

8. Вымаўляецца й пішацца **–ТАР, -ДАР** у словах: **тэатр, мэтар, літар, кадар, монстар** і падобных. Але: **36 кадраў.**

Варта зацеміць: **нэрва, інтэрвію.**

9. Пасьля **У** вымаўляецца й пішацца **В** перад **А: у Вадзін** вагон, **у Варанжавым** сьвятле, **у Вангельшчыне.**

10. **Е** пераходзіць у **Я** ў першым складзе перад націскам у **НЕ** й **БЕЗ**, нават калі яны пішуцца асобна: **бЯз волі, нЯ прыйдзеш,** але: **без аховы, не вызначальны.** Тарашкевіца мае пэўныя іншыя правілы артаграфіі, напрыклад, досыць складанае правіла пераходу **Е ў Я** (цяперашняе афіцыйнае – зручнейшае), дэталі пададзеныя тут правілаў. Мы ж падалі найважнейшае, дастатковае для таго, каб пісаць тарашкевіцай.

**Вінцук ВЯЧОРКА**
**"Наша Ніва", 1'1991**

# РОК-ФЭСТ У ЖОДЗІНА

**Напярэдадні фэсту я задаў некалькі пытаньняў арганізатарам фэсту Сяржуку ЛІСІЧОНКУ.**

- Сяржук, скажы, калі ласка, як з'явілася ідэя правесьці Фэст маладафронтаўскіх рок-гуртоў?

-Упершыню гэтая ідэя прыйшла мне на Дзень беларускай вайскавой славы на Крапівеньскім полі пад Воршай, калі я пачуў як файна могуць граць нашыя з вамі сябры. Дзьве маладафронтаўскія каманды – адна з Магілёва, другая з Жодзіна - з посьпехам выступілі на тамтэйшым фэсьце. І калі "Водар сусьвету" атрымаў падтрымку й апладысменты ад моладзі, то выступ каманды на чале з Паўлам Красоўскім, Жодзіна, быў ацэнены нават першым месцам сярод выканаўцаў. Вось тады і ўзьнікла першая думка: "А што, калі нам усім сабрацца разам і адпачыць пад нашую, маладафронтаўскую музыку?"

-І што? Як ідэя перастала быць ідэяй і перайшла ў практычнае рэчышча?

-Калі я быў у Жодзіна ў лютым і мы размаўлялі з Паўлам Красоўскім, кіраўніком Менскай абласной арганізацыі Маладога Фронту, я спытаў яго, наколькі ідэя Фэсту цікавая. І дзякуй Богу, што Павал таксама падхапіў гэтую ідэю: мы пагадзіліся ўзяцца за справу і зарганізаваць імпрэзу з удзелам маладафронтаўскіх рок-гуртоў з усёй Беларусі. Прычым Фэст на ўсю ноч – такога ў Маладым Фронце яшчэ не было. А зараз будзе.

-І якія чаканьні ў вас ад гэтага Фэсту?

-Спадзяюся, што спадабаецца не толькі арганізатарам, але і ўсім нашым сябрам. Калі Фэст будзе ўдалым, то мяркую, трэба будзе сур'ёзна падумаць і пашукаць магчымасьці, каб гэткую імпрэзу зрабіць традыцыйнай. А што? Могуць жа маладафронтаўцы ў кампаніі сябраў па арганізацыі адарвацца пад **сваю музыку** або не? І хай тады гэта пераўтворыцца ў паўнавартасны Фэст – для нас і для запрошаных гасьцей.

Сяржук БАХУН

# КАРАЛІ РАЁНУ, АЛЬБО КРАМАБАМБУЛЯ № 2

**Як кажуць, дакаціліся – Вольскі, Міхалок ды Кулінковіч... Не, другая Крамбамбуля атрымалася вельмі якаснай папсовай зборкай і ў гэтым сэнсе выклікае толькі падзяку Лявону Вольскаму і кампаніі за прапаганду беларушчыны сярод нашага грамадства. Але ж пяру таго ж Лявона належаць словы, сьпяваныя ім яшчэ ў "Мроі": "*Я не люблю салодкіх сьпеваў і песень рэстаранны варыянт*". Ну што тут сказаць, хіба што нічога...**

**Таму, калі ня браць пад увагу марльны аспэкт сказаных больш за дзесяць гадоў таму словаў Лявона, то задавальненьне ад другой Крамбамбулі атрымаць можна ня благое. На мой пагляд, беларуская поп-сцэна да гэтага яшчэ ня чула падобных кампазыцый.**



Нават першая Крамбамбуля аддавала збольшага самотай і бэспэрспэктыўнасьцю. Другая ж Крамбамбуля атрымалася больш моцнаю (у музычным сэнсе). Кліп на песьню "Госьці" ня раз можна пабачыць на беларускіх каналах БТ і АНТ і нават на ўкраінскай тэлевізіі. А ролю гасьцёў у дадзеным кліпе выканалі тры знакамітыя беларускія футбалісты Аляксандар Глеб, Генадзь Туміловіч і Аляксандар Хацкевіч.

Дыск Крамбамбулі "Каралі раёну" зьмяшчае ў сабе адзінаццаць кампазыцыяў і два рэміксы на песьні "Госьці" і "Люблю" ў апрацоўцы Яўгена Алейніка.

**1. "Сьвята крамбамбулі".**

Рок-полька распачынае альбом словамі "*Запрашаем вас на сьвята крамбамбулі*". Пасьля праслухоўваньня яе складаецца ўражаньне, што ўсё вельмі файна, але ж для поўнага шчасьця ў жыцьці трэба пабываць на гэтым самым сьвяце крамбамбулі. Рэзвенькі пачатак.

**2. "Госьці".**

"*Панаехала гасьцей...*" – гэтыя словы сёньня ня чуў мо толькі глухі. Хіт, які круцяць паўсюль дзе толькі могуць круціцца кружэлкі. Вольскі й Міхалок распавялі ў ёй аб прыезьдзе замежных гасьцей, не, няправільна, – гасьцёў.

Вось менавіта такім кампазыцыям беларуская папса абавязаная сваім жыцьцём.

**3. "Новы год".**

Песьня гэтая напісаная на словы Сяргея Міхалка, якія пераклаў на беларускую мову Лявон Вольскі. У тэксьце распавядаецца аб тым, як сьвяткуюць Новы год у некаторых кампаніях. Распачынаецца ўсё даволі рамантычна *"Сьвята прыйшло ў прызначаны час. Толькі для нас, толькі для нас. Зьзяньне гірляндаў і ёлачны бляск. Толькі для нас, толькі для нас..."*. Ды й канчатак самы звычайны й традыцыйны *"Што ты сказаў? Уважаеш?"* ну й далей чуецца грукат разьбітага посуду й гукі бойкі.

**4. "Хочаш піва"**

Адна з самых душэўных і рэалістычных (у жыцьцёвым сэньсе) кампазыцыяў у дадзеным альбоме. Хаця па назове песьні гэтая акалічнасьць на першы погляд можа і ні заўважыцца. Але ж пасьля першых акордаў і словаў усё становіцца на свае месцы *"Хочаш піва! Таму што ўсё ня так, як мае быць. Бо на душы тужліва. Бо помніш тое, што даўно пара забыць"* ну й далей у гэтым жа стылі. Праўда, напрыканцы Лявон Вольскі выказвае думку *"А мажліва, ня ўсё яшчэ залежыць ад бяды? Бо проста хочаш піва ты"*.

**5. "Работа"**

А вось гэтая песенька самы натуральны сьцёб і прыкол. Яе трэба слухаць, калі весела й ні чым сур'ёзным ня трэба заганяцца. Яе нават можна абазваць "Застольным варыятам". Зразумела ж, што яе напісаў Сяргей Міхалок, а тэкст пераклаў на беларускую мову, як заўсёды, Лявон Вольскі. Сэнс песенькі аб тым, што адна дзяўчына толькі й ведала, што работу *"Дзень у дзень - работа"*. А работа была гатаваць біточкі ў сталоўцы №3. вось і праходзіла так яе жыцьцё, але ж на яе шчасьце ў гэтую сталоўку зайшоў адзін салдат. І тут такое началося... Адным словам, каханьне!

**6. "Безалькагольнае піва"**

А гэтая кампазыцыя ў стылі "ZZ Top", напэўна, найбольш будзе пасаваць да нашых байкераў. Тут параўнальна цяжкаватая музыка з выкарыстаньнем гітарных рыфаў і вуснавага гармоніка. Гэткі каўбойскі музон. Лявон тут сьпявае, як адзін шафёр за рулём выпіў тры літры безалькагольнага піва, а на ранак *"Галава баліць, Клянуся болей я ня буду піць, Безалькагольнага піва"*.

**7 "KRAMBAMBULA"**

Рэтра застаўка. Так, для расслабону.

**8. "Марскі чалавек"**

Ну, а пасьля расслабону йдзе вельмі сур'ёзная песьня ў выкананьні Аляксандра Кулінковіча. У ёй распавядаецца гісторыя аб тым, як адзін беларус стаўся марскім чалавекам. А калі ж ён вярнуўся на Радзіму дзе *"І рэк, і азёраў мы маем зашмат, а мораў няма, акіянаў няма"*. Але ж ён настолькі прызвычаіўся да мораў, што *"Хадзіў ён, хістаўся па цьвёрдай зямлі, нібыта па хісткім ідзе караблі"*. А ад таго што мора ня бачыў у яго моцна гарэла душа. Й вось прыходзілася тушыць яму ромам гэты душэўны пажар. А калі сканаў ён між вазёраў і рэк *"Тутэйшы, але ўжо марскі чалавек. Ляжыць у сваёй беларускай зямлі ў драўляным апошнім сваім караблі"*. Вось так! Як гаворыцца: "Зь песьні словаў ні выкінеш".



**9. "Старыя хіпаны"**

А тут ужо й патаньчыць можна. Сьпявае Сяргей Міхалок у сваім дваровым стылі. У песьні ён распавядае аб спатканьні з дзяўчынай. Калі ж ён зайшоў на месца спатканьня, то сяброўкі там ні было, *"Затое ёсьць яны, Пэтлы да зямлі, Старыя хіпаны"*. Дык вось гэтыя старыя хіпаны паслалі яго ў краму за гарэлкай *"Адмовіць я ня змог дзядулям, бо старасьць мы заўжды шануем"*. Ну й, зразумела ж, з гэтымі дзядулямі-хіпанамі ён напіўся, бо зноў-такі адмовіць ня змог. Скончваецца ўся гісторыя тым, што *"Я цябе сустрэў, калі працьверазеў. Ты сказала мне: Да пабачэньне"*. Вось так бывае, калі дзяўчаты спазьняюцца на спатканьне.

**10. "Няма"**

Гэтая рэч наколькі мне помніцца з раньняга Ляпісаў, толькі зараз перапрацаваная ў лепшы бок. І з гэтага атрымалася выдатнейшая рок-баляда. Музыка таксама нагадвае маё школьнае юнацтва: Scorpions, Metallica, Cramberries і інш. М-да! Настальгія прабівае не на жарт па тых самых часах, калі й трава была зелянейшая й неба блакітнейшае. Ды й тэкст усё аб тым жа *"Дзе жа ты маё каханьне? Дзе жа ты мая любоў?"*, а ў адказ *"Няма"*. Паўтаруся, выдатнейшая рэч! Паслухайце, спадабаецца абавязкова.

**11. "Люблю"**

А гэта прыемнае рэтра з французкімі матыўчыкамі. Вольскі й Міхалок сьпяваюць аб усім, што толькі можна любіць. Канешне ж, дадзеная песенька найбольш пасуе да любові зь дзяўчынкай, але ж выканаўцы пераходзяць на любоў да лясоў, гарадоў, начной магістралі, дня, ночы й г.д.: *"Люблю ўсё, што называецца жыцьцё, і песьню гэтую пяю, пра тое, што жыцьцё люблю!"*.

**12. "Госьці"**
**(вэрсія – Яўген Алейнік)**

Рэмікс на песьню з такім жа назовам. Нечым нагадвае музон васьмідзесятых гадоў.

**13. "Люблю"**
**(вэрсія – Яўген Алейнік)**

А гэты рэмікс па якасьці, на мой пагляд, атрымаўся мо нават лепш, чым аднайменная кампазацыя. На ўласным вопыце пераканаўся ў яго якасьці пад час праслухоўваньня ў аўтамабілі на якаснай апаратуры (абавязкова з сабуфэрам) і на хуткасьці 150 км/г. Супэр!!! Але й можна патаньныць на дыска. Будзе ня блага.

Ну вось і паспыталі мы з вамі, шаноўнае спадарства, ў мызычным сэньсе, гэтую самую "Крамбамбулю". Каму спадабалася, можаце далей працягваць праслухоўваньне ў сваім коле. А для асаблівых фэнаў раю ў гарэлачнай краме набыць ужо аднайменны напой. Такім чынам, смачнага вам праслухоўваньня і вясёлых застольляў з "Крамбамбуляй".

**Сяржук БАХУН**

# КАРАЦЕНЬКА АБ РАЗЬВІЦЬЦІ БЕЛАРУСКАГА РОКУ



**Адныя кажуць што беларускага року папросту ня йснуе, аддаючы перавагу расейскім выканаўцам. Іншыя, гледзячы на Захад, кажуць, што беларускі рок – гэта калгас, а "замежная рок-культура – гшэта зусім іншае". І яшчэ ёсьць такія людзі, што папросту слухаюць свае правінцыйныя (ці не зусім правінцыйныя) гурты, лічачы, што і першыя, і другія ня ведаюць, а можа й наўмысна не зьвяртаюць увагі на Робэртаў Плантаў, Полаў Маккартні ды Юрыяў Шаўчукоў, што ходзяць побач і езьдзяць у адным з табою тралейбусе. Праўда, яны маюць іншыя імёны, не з'яўляюцца настолькі раскручанымі і граюць на гітарах не за 1500 у.а. , а ў лепшым выпадку за 50.**

А ўсё гэтае тлумачыцца, па-першае, прымітыўным узроўнем шоў-бізнэсу на Беларусі, па-другое, хранічным недахопам грошай, па-трэцяе, рысай, вельмі характэрнай для беларусаў. Мы глядзім ва ўсе бакі, за межы нашай краіны – ну, канешне ж, толькі там ёсьць нешта насамрэч добрае, цікавае, вартае нашае ўвагі. І гэта ўбіваецца нашым людзям ужо не адзін дзесятак (а то можа і не адну сотню) гадоў. Але тэма дадзенага артыкула зусім не аб гэтым.

Згодна з прыгаданай вышэй сымпатыяй да ўсяго іншаземнага, гісторыя беларускага року складалася пад уплывам захаду. Яна прайшла неалькі этапаў свайго разьвіцьця. А пачынальнікам музычнага рок-руху (паняцьця "беларускі рок" папросту не існавала) быў гурт "Залатыя яблыкі" у якім пачынаў сваю дзейнасьць будучы саліст "Песьняроў" Леанід Барткевіч. Яны гралі біг-біт, даволі распаўсюджаны ў 60-я, калі па сьвеце пракацілася хваля бітламаніі. Менавіта ў гэты час рок-музыка пачынае дзейнічаць у ВІА-стылі.(ВІА – вакальна-інстумэнтальны ансамбль).

З боку ўлады да аматараў рок-музыкі, гэтай пэрманентнай крыніцы пратэсту і вольнадумства, наўрад ці каму прыходзіла ў галаву чакаць прыхільнасьці. Менавіта гэта вымушала шматлікіх музыкаў працававць у стылі ВІА, у межах якіх і разьвіваліся многія беларускія гурты.

Бацькам беларускайга року і адным з першых ВІА быў гурт "Песьняры" зь легендарным Мулявіным на вакале. У сваіх аранжыроўках ім удалося даволі цікава ў арганічна спалучаць беларускі фольк з сучанымі для тых гадоў рытмамі.

Другім распаўсюджаным стылем, які набіраў моц у 70-я, быў гард-рок, які прыйшоў да нас пад уплывам "Deep Purple" і "Led Zeppelin". Гурты былі найчасьцей англамоўныя, але былі й такія, што сьпявалі па-беларуску: "Берасьцяне", "Залатая Сярэдзіна"зь Берасьця, "Сузор'е" зь Менску ды інш. У 80-я гады на Беларусі распаўсюдзіліся розныя стылі і напрамкі рок-музыкі. ВІА-стыль наадварот пайшоў уніз. Нават "Песьняры" выціскаюць свой даволі рокавы рэпэртуар "казённым". Адзін з найбольш цікавых беларускамоўных гуртоў 80-х быў гурт "Банда", які прытрымліваўся забароненай на той час тэмы забыцьця беларускай гісторыі. Але, дзякуй Богу, у другой палове 80-х дэмакратызацыя ўсіх сфэраў жыцьця грамадзтва прыняла да зьняцьця забароны на "спрэчныя віды мастацтва". СМІ пачалі даваць матэрыялы аб айчынным і замежным року, рок-музыкаў ужо можна было звўважыць як гасьцей у тэле- і радыёэтэры.

Распад СССР ніяк не мог не паўплываць на мастацтва. Цяжкі фінансавы крызіс, пераход да рынкавай эканомікі былі не менш цяжкім выпрабаваньнем для ўсіх рок-гуртоў, чымсі ідэялагічныя забароны.

Адным з найбольш распаўсюджаных стыляў ў серадзе андэграўнду стаў гардкор, у якім вызначаюцца такія вядомыя выдатныя гурты, як "KNUCKLEDUSTER" зь Берасьця,"Gods Tower» з Гомельшчыны ды інш.

Не застаецца без увагі і панк-рок, "сталіцай" якога можна назваць паўднёвы Гомель. У тэкстах гэтага напрамку пераважае тэматыка незадаволенасьці жыцьцём, анархізм, пратэст супраць пэўных маральных нормаў.

Вялізарны ўплыў на беларускую рок-сцэну зрабіў знакаміты гурт Н.Р.М, які прытрымліваецца фольку, панк-гард-року і хэві-мэталу.

Пачынаюць ствараца гурты, якія сынтэзуюць рок з фолькам. Гэта "Крыві", "Палац", "Тройца".

У другой палове 90-х утвараюцца розныя супольныя музычныя праэкты, якія вылучаюцца сваёй цікавасьцю і аб'ядноўваюць лепшых рокэраў Беларусі: "Народны Альбом", "Сьвяты Вечар-2000", "Я нарадзіўся тут", "Крамбамбуля", "Крамбамбуля 1,5".

Зь цягам часу гучаньне становіцца больш электрычным, увабірае ў сябе новыя напрамкі ў музыцы. Можна ўпэўнена сказаць, што шмат пэрспектываў у фольк-камандаў з прычыны іх аўтэнтычнага гучаньня.

Да вышэй сказанага можна дадаць толькі тое, што разьвіцьцё нашай беларускай рок-культуры ідзе далей, што ня можа ня ўзрадаваць.

Нягледзячы на тое, што беларускі рок паўзе, нібы чарапаха з перабітымі лапамі, адчуваючы сваімі ныркамі кожны ўдар з боку ўлады, мы можам з гонарам заявіць: БЕЛАРУСКІ РОК ЖЫВЕ!

**Natka ABARMOTKA і RIMA**

# СЬВЯТА КОЖНЫ ДЗЕНЬ

**Вясною, на пачатку сакавіка, вуліцы пачынаюць поўніцца заклапочана бягучымі кудысь спадарамі, якія цягнуць каляровыя пакункі, торцікі й букеты.**



Ня буду зараз удавацца ў гісторыю сьвята 8-га сакавіка, бо незважаючы на нагоду, кожнай жанчыне прыемна атрымаць кветачку і пару-тройку пяшчотных словаў, якіх збольшасьці бракуе ў астатнія 364 дні.

З аднога боку, паднашэньне напаўздохлых цюльпаньчыкаў, купленых за шаленыя грошы і мыцьцё посуду пасьля вячэры толькі падкрэслівае кантраст са штодзённым жыцьцём, калі "ані кветак табе і посуд мый сама". Атрымліваецца, сам факт дапамогі па гаспадарцы ці нейкія ласкавасці бачацца як міласьць з панскага пляча. Маўляў, узрадуйся, жанчына – тваё сьвята – 8-е сакавіка. Хаця кожны паважаючы сябе і сваю "палавінку" мужчына словам і справай цешыць яе, гэтую "палавінку", рэгулярна.

А зь іншага боку, калі ну няма яе, гэтае ўвагі цэлы год! А на 8-е мужык, нібы токам працяты, пачынае круціцца: і кветачку жонцы, і шкарпэткі дачцэ. Ну чым не любата? Вось і радуецца жанчынка – сапраўды, яе сьвята 8-е скавіка.

Як сказаў адзін мой сябар, сьвята гэтае зусім непатрэбнае, прыдуманае здуру Кларай Цэткін і Розай Люксэмбург. А да таго, што ў астатнія дні няма ані кветак, ані падарункаў – дык у гэта самі мужчыны вінаватыя, дурні. Трэба ўвесь час з павагаю ставіцца да жанчын, і кветкі ім дарыць калі не кожны дзень, то хаця б раз на месяц дакладна.

І ўвогуле, сапраўдныя беларускія жаночыя сьвяты – Дзень Маці, Дзень Эўфрасіньні Полацкай - у нас не сьвяткуюцца. (падказаць чаму, ці так здагадаецеся?).

Мяркую, што калісь будзем сьвяткаваць "жаночы дзень" з нармальнай нагоды, калісь беларускае жаночае сьвята будзе мець сапраўдную нацыянальную гісторыю.

Чаму б не ўзяць нейкую дату, зьвязаную са славутай беларускай, сьвятой, грамадзкай дзяячкай – хіба мала ў нас мужных славутых жанчын? – ды раскруціць яе як наш, беларускі "жаночы дзень".

Увогуле, сьвята – гэта заўсёды добра, калі яно дарэчы й не зяўляецца нагодай для агульнанародных папоек. Дык што сьвяткавць 8-е ці не – прыватная справа кожнага.

**P.S.** Папраўдзе, я не з'яўляюся прыхільніцай цэткінаўскга сьвята, але ўсё ж расчуляюся, калі мне лішні раз дораць шакаладку ці кветачку.

**Ганулька ЗЬНІЧКА**

# ЧАЛАВЕК САБАКУ ХТО?

**Да бяздомных жывёлаў большасьць людзей ставіцца з жалем, хтосьці з непрыязнью, а некаторыя з нянавісьцю. Але нешматлікія задумваюцца над тым, што менавіта на грошы простых грамадзян, на падаткі, вырашаюцца лёсы сабакбесхацінцаў. Менавіта мы, нявольна, робімся спонсарамі масавых забойстваў жывёл. Хтосьці скажа: "Ну якія там масавыя забойствы? Ну замачылі шарыка - тузіка — і што?" За перыяд 1995-1999г. (усяго за 5 год) толькі ў Менску было зніштожана 54000 жывёлаў у сярэднім 11000 ў год!**



Колькі грошай за забойствы дае наша мэрыя – не вядома. Званкі ў менскую службу адлова бадзяючыхся сабак "Спецкамунаўтатранс" скончыліся тым, што дырэктар гэтага завядзеньня проста паслаў "на ..." (канец цытаты).

Але іх тупы бліцкрыг супраць безабаронных жывёлаў усё адно абламываецца кожны год. Так ужо ўладкаваная прырода, калі на якой-небудзь тэррыторыі зьмяншаецца колькасьць сабак, то сука пачынае нараджаць у два разы болей шчанюкоў жаночага полу, і папуляцыя сабак ня толькі вельмі хутка аднаўляецца, але нават і павялічваецца.

У эўрапейскіх краінах выкарыстоўваюць стэрылізацыю, г.зн. жывёлаў адлаўліваюць, кастрыруюць (пад анастэзіяй) і адпускаюць па месцу жыхарства. Але мы, дакладней, нашая гарадзкая ўправа пайшла іншым шляхам: жывёлаў, заганяюць у клетку (клетка маленькая, жывёлаў шмат, вольнага месца ў ёй амаль няма). Потым "чалавек" бярэ дубец, на канцы якога доўгая голка, з падведзеным да яе электрычным токам, і пачынае тыкаць у сабак, якія віскочуць ад болю й жаху. Сабака не памірае пасьля першага ўдару, але вось тыкаюць суседнюю жывёлу і, так як свабоднай прасторы ў клетцы няма, токам б'е і ўсіх астатніх. У выніку, усе ў клетцы ці паміраюць ці губляюць прытомнасьць і слабеюць настолькі, што ўжо не могуць супраціўіцца, калі кбты са службы жывёлаў-бесхацінцаў пачынаюць зьдзіраць з іх скуру для продажу. Потым, абадраныя тушкі вязуць на менскі скотамагільнік (18 км ад горада па Ракаўскай шашы).

Але туды паступаюць жывёлы ня толькі з пунктаў адлову сабакаў, але і з медінстытута. Так-так, замест таго каб лекаваць, нашыя медыкі калечаць. І гэта не гледзячы на тое, што ва ўсім сьвеце студэнты выкарыстоўваюць муляжы ці спецыяльныя кампутарныя праграммы, дзякуючы якім за ходам аперацыі можна сачыць па манітору. Можна нават сказаць, што дзеяньні жывадзёраў гуманней, чым тое, што робяць студэнты-медыкі. Жывадзёры проста забіваюць сабаку і ўсё. Але ж урачы ... гэтыя паступаюць па-іншаму: перад тым, як забіць, яны пасьпяваюць зрабіць 4-5 аперацый. І жывёла выдатна ведае, куды яе вядуць і што яна зараз будзе адчуваць. Дарэчы, абязбольваючае сабакам амаль не даюць.

Вось так! А вы кажыце правы чалавека...

**Андрусь ХОМІЧ**

**Дяніс КОБРЫНЬСКІ**

***

Кроў б'е ў скроні,
Цямнее ў вачах,
Я сьціснуў далоні
У якіх трымаў сьцяг.

Гэты сьцяг – незвычайны,
Не проста шматок тканіны,
Гэта мой крык адчайны,
Крык маёй краіны.

Пакуль мы Радзіму не забылі,
Пакуль мы Радзіму памятаем,
Пакуль моц у руках не згубілі
Гэты сьцяг ў паветра ўздымаем.
25.03.02

**МОВА**

Называлі цябе мужыцкай,
Ужываньне забараняліі,
Замянялі іншай, чужынскай,
Але продкі цябе захавалі.
Захавалі для нас – для нашчадкаў,
Захавалі, як помнік народа.
Словы, нібы сотні зярняткаў
Ускаласіліся замест чарота.
Ты квітней, мая родная мова!
Ты ў гару няспынна цягніся!
Слова кожнае ганарова
У паветры гучна імчыся!

**ГРУНВАЛЬД**

Чорны крыж на белай плашчаніцы
Нічога добрага не прадвяшчаў.
Рэшткі дагараюць праваслаўнае званіцы,
Ідалаў паганскіх хтосьці парубаў.

Гэта тэўтоны, гэта тамплієры
Уварваліся на нашую зямлю,
Прымушаюць цалаваць крыж сваёй веры,
Хто нязгодны – адсякаюць галаву.

І ўзьняліся сялянскія сякеры,
І ўзьняліся і княжыя мячы.
Не было бы ў перамогу веры –
Аб'яднала любоў да роднай зямлі.

Бойкі не на жыцьцё, а на пагібель
Працягваліся дзесяткі год.
Пагоня, што ўзьняў князь Віцень
У кожны ўздымалася паход.

І вось ля Грунвальда сышлся.
Па абодва бакі войскі стаяць.
Штандары, сьцягі ўзьняліся,
Ворагі сталі насупраць, маўчаць.

Ульрых фон Юнінген з узьнятым мячом
Падрыхтаваўся ўжо да нападу.
Вітаўт з ганарова ўзьнятым чалом
У вочы глядзеў крыжацкаму гаду.

Ліпеньскае сонца пякло, як нколі,
Раскаляючы кальчугі ды латы,
Вітаўт гучна прамовіў: "Даволі!"
На каня ускочыў, нібы крылаты.

Пад націскам коней зямля застагнала,
Вялікае Княства рушыла ў бой.
Нядоўга Грунвальдзкае поле чакала
Пакаштаваць крывавы напой.

Цяжка далася тая перамога,
Цяжка пакідаць было на полі сяброў,
А потым яшчэ Мальборкі аблога,
Дзе пралілася непатрэбная кроў.

Зьнясіленыя бойкай мы вярнуліся дахаты.
Ішоў тысяча чатырыста дзесяты год.
Празь тыдзень з Пагоняй з'явіўся глашаты
І паклікаў у новы паход.

**Людка СІЛЬНОВА**

**ТЫ НЕ ТЭЛЕФАНУЕШ МНЕ**

1.Наяве
А ці ў змрочным сьне –
Ты не
Тэлефануеш мне.
Мінае дзень
За ім другі –
Як нізка
Пэрлін дарагіх,
Падораная
Мне Айцом
Іравецца
Перад дзён канцом.
2.Ты не
Тэлефануеш мне.
Вайна спакою! Мір вайне!
Ружанец
Несказаных слоў
У лужыну ўпушчу,
У кроў.
Навокал –
Стогнуць
І бягуць...
Машыны,
Фабрыкі гудуць.
Наяве?
А ці ў змрочным сьне?
Ты не
Тэлефануеш мне.
3. Аднойчы
Сьветлы ранак мне
Падкажа:
Гэты боль мне.
Мінае ўсё.
Мінаем мы.
Як сьвяты
Пасярод зімы.

**ЗЬНІЧКА**

**ЖЫЦЬ**

Быць ветрам
вясновым,
быць небам
вясковым,
свабодаю, воляй
адвечнай.
Быць жоўтаю
кветкай,
травой на
палетках,
бурлівай імкліваю
рэчкай.
Быць плыньню
людзкою,
быць мрояй
чужою,
змаганьнем,
крывёю,
вясною,
зімою,
спакоем
і болем
быць...
Жыць.

**Арцём ЛЯВА**

***

Нас многа розных – Беларусь адна.
Дзеля Радзімы будзем разам.
Шмат слоў пра еднасьць сказана здаўна,
Яшчэ больш справай зроблена абразы.
А трэба толькі словы прыгадаць,
Калі пачуцьці засьцяць розум:
"Нас многа розных – Беларусь адна.
Дзеля Радзімы будзем разам!"

